# ГОЛАС ЦАРКВЫ

**РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ**

**Выдае Рада Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы**

**Рэдагуе Калегія, Адрыс Рэдакцыі: Цана 1 даляр**

**"The Voice of the Church", 401 Atlantic Av., Brooklyn, N. Y., 11217**

**№ 38 КРАСАВІК — 1973 — APRIL ГОД. 19**

## ВЯЛІКОДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

### САБОРУ ЕПІСКАПАЎ БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ

**Дастойнаму Сьвятарству і ўсім Багалюбным Вернікам Божым Народу Беларускага, на Бацькаўшчыне й па чужыне раскіданым**

Дарагія й любыя дзеці нашыя духоўныя!

Хрыстос Уваскрос!

У вялікай радасьці вітайма гэтымі словамі адзін аднаго, і на вітаньне адказвайма — Запраўды Ўваскрос!

Як-бы часта мы ні паўтаралі гэтае вітаньне, яно заўсёды радаснае, з аднолькавай сілай узьдзеяньня. Асаблівая сіла Любові й Ласкі Божае вычувалася пры гэтым вітаньні ў нас на Бацькаўшчыне, дзе Сьвята Ўваскрасеньня Хрыстовага прыпадае ў часе абуджэньня прыроды ад зімовага сну, калі ўсё абуджаецца да новага жыцьця, калі ў сонечным сьвятле й цяпле ўсё паклікаецца да росту й красаваньня, і на яве Веліч і Хараство Божага Тварэньня.

Хрыстос запраўды ўваскрос, бо Ён ёсьць Сынам Бога Жывога, запраўдным Збаўцам і Творцом Госпадам нашым. Ён быў „выданы за грахі нашыя і ўваскрос дзеля апраўданьня нашага" (Рымл. 4:25). І так як Хрыстос уваскросшы ня ўмірае, так Ён і нас збавіў ад сьмяротнасьці.

Уваскрашэньне памершых прадракаецца яшчэ ў Старым Законе. „І шматлікія супачылыя ў трухне зямлі абудзяцца, адны да жыцьця вечнага, іншыя — на ганьбаваньне й пасаромленьне вечнае" (Прар. Дан. 12:2). „Ад улады пекла Я адкуплю іх і ад сьмерці збаўлю іх. Сьмерць! дзе тваё жала? Пекла! дзе твая перамога?" (Осія, 13:14).

Уваскрасеньне Госпада нашага Ісуса Хрыста асабліва радаснае нам яшчэ й таму, што Яно прыпамінае й абнадзейвае нас на ўвас-

красеньне мілай нам Бацькаўшчыны Беларусі, на абуджэньне ад заняпаду й выбаўленьне зь няволі, і фізычнай, і духовай. Сілы зла ня могуць усталіць на зямлі лад супакою, згоды, братняй любові. І цяперашняе ўкрыжаваньне Хрыста на паняволенай Бацькаўшчыне павінна скончыцца перамогай Хрыстовае Праўды на зямлі.

Сьвята Вялікадня папераджае Вялікі Пост і Тыдзень Мукаў Хрыстовых, час малітвы, паўстрыманьня й каяньня. Прызнаньне сваіх грахоў прад Богам і прад братамі й пакаяньне ў іх, глыбейшае ўспрыняцьце Мукаў Хрыстовых у сэрцах сваіх, стараньне зблізіцца й праняцца зямною навукаю Хрыста — узносяць нас пры спатканьні Сьвята Ўваскрасеньня Хрыстовага ды вышэйшае радасьці.

Дарагія Суродзічы Беларусы! Мы цяпер усьцяж знаходзімся ў вялікім нацыянальным посьце. Настаў час, калі наш народ перажывае мукі, духовыя й фізычныя. Зьняволеныя на Бацькаўшчыне ды разганяныя па ўсім Савецкім Саюзе, таксама раскіданыя па ўсім сьвеце, разносім косьці народу свайго па ўсёй зямлі. І настаў час нашага пакаяньня ў правінах прад Бацькаўшчынай, у нешанаваньні яе ці нядбальстве, час шчырага маленьня да Збаўцы нашага Госпада Ісуса Хрыста, каб узмоцніў нас у братняй любові й згодзе, у Веры й Надзеі на радаснае спатканьне нашага сьвята — Вызваленьня — Уваскрасеньня любае Бацькаўшчыны Беларусі. Каб і да нас былі скіраваныя словы Госпада праз прарока: „І зьбяру вас з усіх старон, і прывяду вас у зямлю вашую . . . І ад усіх ідалаў вашых ачышчу вас . . . І дам вам сэрца новае, і дух новы дам вам . . . І будзеце жыць на зямлі, якую я даў айцом вашым" (Ез. 36:24-28).

У гэты-ж Вялікі й Сьвяты Дзень, які стварыў Госпад, узрадуемся і ўзьвесялімся ў Ім.

А Таму, Хто можа захаваць нас ад упадку й паставіць прад Славаю Сваею не зьнявечанымі і ў радасьці, Адзінаму Прамудраму Богу й Збаўцу нашаму Ўваскросшаму Госпаду Ісусу Хрысту хвала й падзяка, сіла й слава, цяпер і ўсячасна й павек вякоў.

Лета Божага 1973.

Пакорны ў Богу **Мітрапаліт Андрэй**
Пакорны ў Богу **Епіскап Мікалай**

## ВЯЛІКДЗЕНЬ

Апошні тыдзень Вялікага посту прыпамінае нам пра апошнія дні зямнога жыцьця Збавіцеля, Тайную Вячэру, Юдаву здраду, суд над Хрыстом, зьдзекі над Ім, мукі, сьмерць на крыжы й пахавіны ў Вялікую Пятніцу. Для кажнага ведама, што Хрыстос уваскросьне, але чамусьці пабожныя хрысьціяне ў жалобнай трывозе перажываюць гэты час, і апошнія гадзіны Сьвятое Ночы ў Сыботу расчулена чакаюць, калі наблізіцца час Вялікоднае Багаслужбы. У гэты вечар усе — і старыя й малыя, багатыя й бедныя — з радасьцю сьпяшаюцца да Храму Божага. І нейкім дзіўным незямным захапленьнем прасякнуты сэрцы вернікаў у гэты слаўны дзень Уваскрасеньня Хрыста Збавіцеля. Ніякая радасьць жыцьцёвая не аб'ядноўвае так цесна людзей, і мірыць іх паміж сабою, як радасьць Уваскрасеньня Хрыстовага. Гэтая супольная для ўсіх урачыстая радасьць перамогі дабра над злом, жыцьця над сьмерцю.



УЛАДЫКАЎ НАШЫХ

*Высокапраасьвячэнэйшага МІТРАПАЛІТА АНДРЭЯ*

*Праасьвячэньнейшага ЕПІСКАПА МІКАЛАЯ*

*Пачэснае Сьвятарства, Рэгэнтаў і Харыстых,*
*Парафіяльныя Рады, Брацтвы й Сястрыцтвы,*
*Нацыянальныя Грамадзкія й Навуковыя Ўстановы,*
*Арганізацыю й Гурткі Моладзі нашай,*
*Усіх вернікаў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы*
*і ўвесь Беларускі Народ на Бацькаўшчыне й чужыне —*

*Вітаем*

З УВАСКРАСЕНЬНЕМ ХРЫСТОВЫМ
І ЖАДАЕМ ВЯСЁЛАГА ВЯЛІКАДНЯ.
*ХРЫСТОС УВАСКРОС! — ЗАПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!*

**Рада Беларускае Аўтакефальнае**
**Праваслаўнае Царквы**

Сьвятая Праваслаўная Царква, жадаючы якнайглыбей адлюстраваць нашыя ўяўленьні й дакладна расчыніць для нас глыбіню падзеяў Уваскрасеньня Хрыста, адзначае Вялікодныя Багаслужбы асабліва ўрачыстымі абрадамі й сьвятадзеяньнямі.

Апоўначы з сыботы на нядзелю сьвятары ў сьветлых рызах, з крыжам, Эвангельлем, іконамі, сьвечкамі й харугвамі выходзяць з царквы й абходзяць яе навакол тры разы, сьпяваючы: „Уваскрасеньне Тваё, Хрысьце Спасе, Ангелы пяюць у нябёсах, і нас на зямлі спадобі чыстым сэрцам Цябе славіці". У гэтым часе мімаволі ў пабожных людзей думкі пераносяцца ў глыбіню вякоў, і яны ўяўляюць, як на золку тае раніцы сьпяшаліся да гробу Хрыста Жанчыны-Міраносіцы, каб памазаць духмянасьцямі Цела Хрыстовае. Любоў, вера й надзея палымянна гарэлі ў іхных сэрцах. А царква гэтаю працэсіяй і прыпамінае, як Жанчыны-Міраносіцы сьпяшаліся да гробу Збавіцеля.

Каму-ж з пабожных вернікаў не хацелася-б хоць думкамі быць каля гробу Ягонага ў той мамэнт, калі з гробу, як з сьветлага палацу, выходзіць пераможца пекла й сьмерці — Хрыстос!

І Сьвятая Царква пад жаданьне пабожных вернікаў, прыводзіць іх да зачыненых дзьвярэй Храму. Працэсія затрымліваецца. Сьвятары падыходзяць да зачыненых дзьвярэй і сьвятаславяць пачатак ранічнае Службы, ды абкадзіўшы дзьверы, сьпяваюць тры разы: „Хрыстос ува-

скрос з мертвых, сьмерцяю сьмерць паканаў, і тым, хто ў грабох, жыцьцё дараваў". Гэты сьпеў падхоплівае хор, і ён лунае аж да часу, калі сьвятар прагалосіць: „Хай уваскросьне Бог, і распыляцца варагі Яго, і пабягуць ад абліччa Яго ўсе ненавісьнікі Яго" (Пс. 67).

Чаму-ж так моцна дзеюць на душы й сэрцы хрысьціянаў гэтыя словы: ХРЫСТОС УВАСКРОС!? Сіла й магутнасьць іх у тым вялічэзным значэньні самое падзеі Ўваскрасеньня Хрыстовага, бо яна ёсьць дакананым фактам нашага збаўеньня й пячацьцю нашай веры ў Хрыста: Хрыстос уваскрос, і мы ўваскроснем; а калі-б Хрыстос не ўваскрос, дарэмнаю была-б вера нашая, вучыць нас апостал Павал.

Перахрысьціўшы крыжам зачыненыя дзьверы, сьвятар адчыняе іх і ўвайходзіць у сярэдзіну Храму, а за ім ідуць вернікі. Цудоўны малюнак: царква зьяе агнямі, і радасьцяй зьзяюць абліччы вернікаў.

З гробу зазьзяла нашае Сонца Праўды, Хрыстос Бог, і праз Уваскрасеньне Хрыстовае паліліся хвалі сьвятла духоўнага па цэлым сьвеце. У гэты ўрачысты й сьвяты дзень на вернікаў зыходзяць асаблівыя дары Ласкі Божае, і Храм Божы напаўняецца славаю; у азнаку гэтага адбываецца частае кадзеньне ў часе Ранічніцы.

Праваслаўная Царква Вялікодную Багаслужбу ператварыла ў адну бесьперапынную песьню, ад пачатку Усяночнае й да канца ў поўні ўрачыстых і радасных мэлёдыяў. У гэтым часе мы не адчуваем горкіх успамінаў і скрухі за грахі, як гэта бывае ў Багаслужбах у іншыя дні. Цяпер усе і ўсё заклікаецца да духовае радасьці, да хвалы, да падзякі: і неба, і зямля, і глыбіні зямлі; і Царква перастала ўжо быць ваюючаю, а сталася ўрачыстаю на зямлі й небе, аб чым сьветчаць адчыненыя Райскія Дзьверы на працягу ўсяго тыдня, бо Хрыстос Сваім Уваскрасеньнем адчыніў нам дзьверы да Ўладарства Нябеснага.

Пачуцьцёвым і павучальным мамэнтам на Вялікоднай Ранічніцы становіцца „Хрыстосаваньне" — ўзаемнае цалаваньне паміж сьвятарамі й з вернікамі, а гэтак сама вернікаў паміж сабою. Гэты звычай даўнейшы й прыпамінае нам той шчасьлівы час, калі неба й зямля злучацца ў адзіны сьвет, калі нябесныя Ангелы й вандроўнікі зямлі, нібы пасьля доўгае разлукі, спаткаюцца на новай зямлі, „дзе жыве праўда", калі людзі ўсіх краін і вякоў зьбяруцца разам прад Абліччам супольнага Бацькі людзей — Айца Нябеснага, вітаючы адзін аднаго, і ў размове сваёй ня будуць ведаць іншых слоў, апрача слоў братэрства й любові.

Радасна гучаць і словы Яна Залатавуснага, якое чытаецца ў часе Вялікоднае Службы: „Увайдзеце ўсе ў радасьць Госпада свайго ... Багатыя й бедныя разам весялецеся ... няхай ніхто не засмучваецца грахамі, бо дараваньне з гробу зазьзяла ..."

Радасьць нашая ў дзень Уваскрасеньня Хрыстовага поўная й чыстая. Мы верым, што мы адкуплены Прачыстаю Кроўю Сына Божага, і ўжо не зьяўляемся дзецьмі гневу Божага а дзецьмі любові Божае, „а калі дзеці, то й спадкаемцы, — спадкаемцы Божыя ў праўдзе і ў супольнасьці з Хрыстом" ... (Рымл. 8:17). Усе мы павінны радавацца ў гэты дзень, бо Хрыстос пекла зруйнаваў, Адама ўзьняў, Еву звольніў, сьмерць паканаў, і нас ажывіў, зрабіў нас братамі й сёстрамі, каб быць дастойнымі сьветлай радасьці Ўваскрасеньня Хрыстовага.





# ЖЫЦЬЦЁ ЕФРАСІНІ ПОЛАЦКАЙ

У гэтым годзе споўнілася 800 год ад часу сьмерці Апякункі нашага Народу сьв. слаўнае Ефрасіні. З гэтае нагоды Сабор Епіскапаў і Кансысторыя БАПЦарквы на эмігрэцыі пастанавілі адзначыць гадавіну Ейнае сьмерці ўва ўсіх нашых парафіях у вольным сьвеце Малебнамі й прысьвечанымі дню акадэміямі, каб і Яна малілася за вызваленьне нашае пакутнае Маці Беларусі з бязбожнае ўлады.

Жыцьцяпіс сьв. Ефрасіні мае ня менш цікавую гісторыю, як і самае жыцьцё Сьвятое. Згодна прыпушчэньня беларускага навукоўца В. Ластоўскага, арыгінал жыцьцяпісу сьв. Ефрасіні яшчэ недзе захаваўся, і напісаны ён у XII веку.

Справаю адшуканьня жыцьцяпісу займалася ўжо ня мала гісторыкаў, і пакуль што няма новых дадзеных і няма навет магчымасьці скантралявацца усе пазьнейшыя рукапісы, а таму даводзіцца карыстацца тымі найбольш праўдападобнымі, якія да нас дайшлі, разглядаючы й пазьнейшыя распрацоўкі. Пры пераапрацоўках жыцьцяпіс пісаўся не беларускаю мовою, аднак ягоны зьмест даволі поўны й пэўны. Апавядае ён аб жыцьці Сьвятое з неперапыннай пасьлядоўнасьцяй й ня мае важнейшых прагалаў. Агулам-жа, з жыцьця Сьвятое існуе даволі вялікая бібліяграфія. І калі парахаваць усе кнігі, брашуры, рукапісы, у якіх сустракаюцца весткі пра Яе жыцьцё й дзейнасьць, дык набярэцца звыш сотні назоваў у мовах: беларускай, расейскай, украінскай і царкоўна-славянскай.

Дакладная дата Яе нараджэньня да гэтага часу яшчэ ня высьветлена, але з таго факту, што Яна маючы 12 гадоў уступіла ў манастыр, дзе ігуменяю была Яе цётка, удава па Раману Ўсяславічу, які памёр у 1116 г., дату Яе нараджэньня трэба прыняць не раней 1104 году.

Ефрасіня — гэта імя, якое яна прыняла ў часе пастрыжэньня ў манашкі. Сьвецкае Яе імя было Прадслава. Бацька Яе Юры быў малодшым сынам славутага полацкага князя Ўсяслава Брачыславіча, якому Ефрасіня даводзілася ўнучкаю. Настаўнікамі Прадславы былі духоўныя асобы, а перадусім манахі й, магчыма, грэкі, бо маці Яе паходзіла з роду візантыйскіх імпэратараў Комнэнаў. Сваімі поступамі ў навуцы Прадслава зьдзівіла навет сваіх настаўнікаў і бацькоў.

Была Яна вельмі прыгожаю, і калі Ёй споўнілася 12 гадоў, суседнія князі пачалі прысылаць сватоў, але Яна адкінула думку аб сужэнстве з зямным сьмяротным чалавекам, а пасьвяцілa сябе Несьмяротнаму Сужонку Нябеснаму Госпаду Ісусу Хрысту. А калі бацька вырашыў выдаць Яе замуж бяз Ейнае згоды, дык даведаўшыся пра тое, пастанавіла ўцячы ад сужэнства ў манастыр, дзе ігуменяю была Ейная цётка, ўдава па князю Раману Ўсяславічу.

Ігуменя баялася прыняць Яе, каб не наразіцца на гнеў Яе бацькі — князя. На гэта Прадслава адказала: „Ня бойся, валадарка й маці мая, майго бацькі, а бойся Бога". Пасьля гэткага адказу ігуменя згадзілася прыняць Яе й паклікала сьвятара, каб пастрыг яе ў манашкі. Ад гэтага часу Прадслава ўжо памерла, а нарадзілася Ефрасіня, як слаўная нявеста Хрыстовая. Моцна плакалі бацькі Яе й прасілі пакінуць манастыр, але надарэмна. Яна іх так добра пераканала, што яны супакоіліся й вярнуліся дамоў, а яна ў малітвах і посьце пачала ўзмацняць і ўдасканальваць свой розум і свой дух.

Бязумоўна, сьціплае жыцьцё манашкі ў манастыры цёткі не магло за-

даволіць Яе, і Яна зьвярнулася да полацкага Епіскапа Ільлі, каб дазволіў Ёй перасяліцца ў самую царкву сьв. Сафіі, на што атрымала ад Епіскапа дазвол на тэй падставе, што калісьці пры Ерусалімскай сьвятыні таксама жылі пабожныя дзевы, між якімі была Найсьвяцейшая Дзева Марыя.

Манастыр гэты з таго часу стаўся цэнтрам усяго рэлігійнага, культурнага й дзяржаўнага жыцьця, запраўдным цэнтрам асьветы на Беларусі, бо тут праявілася вялікая дзейнасьць Ефрасіні. Яна збудавала тут школу, зарганізавала справу перапіскі кніг, вышывальніць аблачэньняў, заклікала выдатных пэдагогаў таго часу. Хутка пачало наплываць шмат ахвотнікаў уступіць у манастыр, а таму адчулася нястача месца, і Яна задумала збудаваць новы манастыр. Гэтая думка Яе была мілая Богу, а таму ўначы Ёй зьявіўся Ангел, прывёў Яе да мясцовасьці Сяльцо й сказаў: „Тут табе трэба жыць, бо хоча Бог на гэтым месцы праз цябе спасьці шматлікіх". Гэты сон паўтараўся аж тройчы, і Сьвятая задумалася й цешылася з таго, што хоць у сьне бачыла Ангела, і пастанавіла прыняць волю Яго, кажучы: „Гатова сэрца маё, гатова... як хочаш Божа, так рабі са мною, Тваёю слугою". Атрымаўшы ад Епіскапа пасьвячэньне, яна пайшла ў таварыстве аднае манашкі ў Сяльцо, маючы з сабою толькі некалькі кнігаў для малітвы, тры баханкі хлеба й падарожны кій, і манастыр жаночы ў Сяльцы збудавала. Асьвячаньне манастыра было надзвычайна ўрачыстым. Сюды сабраліся ня толькі шматлікія князі й Ейны бацька Юры, але й тысячы народу. Ігуменяй гэтага манастыра сталася сама Ефрасіня. Кожны дзень сотні жанчын пачалі прыходзіць да Яе, як да Ангела з просьбамі памагчы, даць уцеху, раду. Прышла да Яе й Ейная родная сястра Градзіслава, якая прыняла імя Еўдакіі, прышла стрэчная сястра Зьвяніслава, у манастве Еўпраксія, прышлі дзьве яе пляменьніцы, якія ў часе пастрыгу ў манашкі прынялі імёны — Агаф'я й Яўфімія. У новым манастыры была пабудаваная мураваная царква Збавіцеля. Упрыгожыўшы пабудаваны Спаскі манастыр, сьвятая Ефрасіня ў недалёкай адлегласьці ад яго пабудавала другі, мужчынскі манастыр, з мураванаю царквою ў імя Прасьвятое Багародзіцы, дзе былі адчынены школы й пашыралася асьвета.

А каб ўпрыгожыць яшчэ лепш гэтыя пабудаваныя цэрквы й манастыры, сьвятая Ефрасіня паслала манаха Міхаіла да імпэратара Мануіла Комнэна й да Патрыярха Лукі з багатымі для іх падарункамі і з просьбаю даць для Яе Эфэскую ікону Прасьвятое Багародзіцы, званую Адзігітрыя (Пуцяводніца), якую напісаў апостал Лука. Зь вялікаю радасьцю яна атрымала гэтую ікону і ўпрыгожыла яе золатам і брыльлянтамі. Некаторыя гісторыкі кажуць, што гэтая ікона цяпер знаходзіцца ў Чэнстахове. Дакладна пра гэта няведама, ведама толькі, што ў 14-м веку яе ў Сяльцы ўжо ня было. Можна толькі дагадвацца, што яна была туды вывезена ў часе рэлігійных закалотаў у Вялікім Княстве Літоўскім.

У Царкве сьв. Спаса Ефрасіня палажыла дарагі напрастольны крыж, аздоблены золатам, срэбрам і дарагімі каменьнямі, які на Яе замоўленьне выканаў у 1161 годзе выдатны беларускі майстар Лазар Богша. Мастацкая апрацоўка крыжа сьветчыць, што ў XII ст. у Беларусі былі майстры на ўзроўні тагачаснае візантыйскае культуры.

Пасьля нейкага часу Сьвятая Ефрасіня даручыла кіравецтва манастыра сваёй сястры Еўдакіі, а сама, разьвітаўшыся з усімі й памаліўшыся Богу, накіравалася ў Ерусалім, узяўшы з сабою другога свайго брата Давіда й сваячку Еўпраксію. А на просьбу ўсіх не пакідаць іх, яна сказала: „Я не пакідаю нікога, але йду маліцца за ўсіх на Сьвятой Зямлі". У Вугоршчыне яна спаткалася з імпэратарам Мануілам, які з вялікім гонарам прыняў Яе й накіраваў у Царгорад. Тут, памаліўшыся ў Сьвятынях і пакланіўшыся сьв. мошчам, Яна накіравалася ў Ерусалім. Там наведала Гроб Гасподні, і шчыра памаліўшыся перад Ім, запаліла незгасальную лямпаду за сваю далёкую, але блізкую Ейнаму сэрцу Бацькаўшчыну; пакінула каля Гробу залатую кадзільніцу, абдарыла царкву Ерусалімскую й Патрыярха вялікімі падарункамі. Адведаўшы іншыя Сьвятыя Мясьціны, Яна зьвярнулася да Госпада Бога з шчыраю малітваю, каб дазволіў Ёй памерці ў гэтым Сьвятм Месьце.







Малітву Яе Хрыстос прыняў. Праз некалькі дзён Яна захварэла. Жадала яшчэ пабыць на Йардане, але ўжо не магла, а таму паслала свайго брата Давіда й Еўпраксію, каб прынесьлі Ёй вады з Йардана. Прыняўшы ваду з вялікаю радасьцю, яна напілася й акрапіла ёю сваё цела, ды лёгшы ў пасьцель прасіла Бога, каб прыняў Ейную душу. І тады зьявіўся Ёй ангел і сказаў, што на спатканьне Яе ўжо чакаюць ангелы Божыя ў небе. Праляжала Яна на пасьцелі яшчэ 24 дні. Пачуўшы адыход у вечнасьць, сказала паклікаць сьвятара, прычасьцілася Сьвятых Хрыстовых Тайнаў, і 23-га травеня 1173 году аддала Богу сваю сьветлую душу.

Пахавалі Яе ў Жаночым Манастыры Прасьвятое Багародзіцы ў Ерусаліме, дзе спачываюць угодніцы Божыя. Пазьней, калі турэцкі султан Саладзін рыхтаваўся захапіць Ерусалім, мошчы Яе ў 1187 годзе манахі перанясьлі ў Кіеў, а ў 1910 годзе перанесены ў родны Полацак.

Сьвятою Ефрасіня была прызнаная ў Ерусаліме, у Царгорадзе й Епіскапамі у родным Полацку адразу пасьля сьмерці, а пазьней сьвятасьць прызналі й іншыя праваслаўныя народы й каталіцкі Рым.

Гэткую вялікую й слаўную дачку меў і мае цяпер Беларускі Народ і БАПЦарква. Дзякуючы ёй нашая Праваслаўная Царква мела добрыя дачыненьні з Візантыйскімі патрыярхамі й імпэратарамі, і гэта напэўна паслужыла добраю асноваю да таго, што на зараньні нашае гісторыі патрыярхі й імпэратары прызналі Аўтакефалію Беларускае Мітраполіі, якая спрычынілася да пашырэньня ня толькі рэлігійнага, але сьвецкага культурна-асьветнага жыцьця.

Поле дзейнасьці Яе было вельмі шырокае і ўрадлівае. Спрычыніліся да гэтага тры дзейнікі: Яе ўроджаная здольнасьць, высокая асьвета, асабліва-ж Ласка Божая. Усё гэта натхняла Яе да важных і адважных пачынаньняў, і не зважаючы на ніякія перашкоды й цяжкасьці, Яне не зьнеахвочвалася, аж пакуль не асягала вызначане мэты.

Светлы прыклад, ахвярнае жыцьцё, рухавая дзейнасьць, шчырыя малітвы й сталае самадасканаленьне, спрычыніліся да прыгожага росквіту хрысьціянскіх дабротнасьцяў у нашым народзе, узмоцнілі пачуцьцё дабра й красы, лагодзілі звычаі й абычаі, уздымалі асьвету й культуру нашага народу, а таму так высака цэніць і шчыра любіць кажны беларускі вернік сваю Сьвятую.

Будзем верыць, што Яна з намі, што не пакінула нас і сяньня. Трэба верыць, што прыйдзе нарэшце той час, калі вымаліць Яна ў Госпада Бога для Свае Бацькаўшчыны й народу лепшую долю. Задзіночаныя аднымі думкамі й цярпілвасьцю ды сьціплаю працаю для сябе й Роднага Краю, будзем верыць, што мы не адны, што сочыць за намі й дапамагае нам у кожных нашых добрых пачынаньнях Заступніца нашая Сьвятая Ефрасіня-Прадслава Полацкая.

Агульную думку сваіх суродзічаў з дзейнасьці Сьвятое вельма яскрава

апісаў першы летапісец Беларус Полаччыны; ён склаў на чэсьць Сьвятое цудоўны гімн, які канчае наступнымі словамі: „Якою моваю, браты, належыцца нам усхваляць сьветазарную памяць прападобнае Нявесты Хрыста Ефрасіні: Яна-ж была памочніцай пакрыўджаных, сумуючым пацеха, згалелым адзявальніца; проста кажучы ўсім, усё была. Сэрца сваё Ефрасіня паіла Боскаю мудрасьцю. Ефрасіня кветка з райскага саду, што ніколі ня вяне. Ефрасіня небаўзлётны арол, які пралятаў ад захаду да ўсходу й як сонечны прамень прасьвятляў усю Полацкую зямлю . . . Маліся Прападобная за грамаду сваю да Бога, бо Яму належыцца ўсякая слава, чэсьць і пакланеньне".

У летапісах захавалася й некалькі малітваў, уложаных Самой Ефрасіняй. Гэтак, для выяўленьня свае шчырае падзякі Богу пасьля заканчэньня будовы Царквы Спаса, яна ўлажыла наступную малітву: „Ты Госпадзе, сэрцавідча Уседзяржыцелю, зглянься на гэтую царкву, збудаваную ў Імя Тваё, і на мяне нягодную слугу Тваю й іншыя слугі Твае, сабраныя пры гэтай царкве . . . і працуючым Табе, будзь нам настаўнікам, пастырам і старожаю, каб ніводнае з нас не схапіў на згубу драпежны воўк-нячысьцік. Будзь нам, Госпадзе, аружжам і сьпяною, каб ня сталася нам ліха, і рана каб ня прыбліжылася да нашага цела, і не загубі нас з нашым беззаконьнем. На Цябе спадзяёмся, бо Ты Бог добрасардэчны й літасьцівы для тых, якія знаюць Цябе, і Табе славу засылаем да апошняга нашага дыханьня".

Гэтую малітву з вялікаю асалодаю выслухалі і ўспрынялі нашыя сурodзічы 800 год таму з вуснаў самое сьв. Ефрасіні. Узьнясём-жа й мы ў сваіх сьвятынях у гэтую памятную гадавіну Ейнае сьмерці нашыя шчырыя малітвы, каб уваскрасіць у нашай памяці зьзяючую постаць слугі Божае, а нашага ангела, любую асьветніцу Беларускага Народу сьв. Ефрасіню.

## СЬВЯТАЯ ЕФРАСІНЯ — КНЯГІНЯЙ ПОЛАЦКАГА КНЯСТВА

У 1968-ым годзе, каля Ноўгарада на адмелу ракі Волхава, знойдзены невялічкі мэталёвы кружок, каля 20-ці мілімэтраў у дыямэтры. Кружок гэты аказаўся старадаўнаю пячаткаю-буллаю, якая падвешвалася на шнурку да якогась дакумэнту.

На адным баку гэтае пячаткі адціснута прыгожа выкананая шматфігурная кампазыцыя Перамяненьня Госпадняга. У цэнтры яе — Хрыстос, па бакох — прарокі Ільля й Майсей, у нагах — упаўшыя на зямлю апосталы: Якаў, Ян і Пётра. З напісу, раскладзенага ў вольных мясцох, захаваліся пачатковыя літары слова — **мета** — і канцовыя — **Ф . . . с** — гэта з грэцкага слова — **метаморфосіс**, — што азначае ў нашай мове — перамяненьне, ці пасланянску праабражэньне. Гэтак пісаліся іконы ў Візантыі.

На другім баку кружка — адбітак дапаяснога абразка сьвятое, тут-жа й яе імя **Иефросіня.** Навокал абразка напіс: „Господи, помози рабе своеи Ефросини нарецаемои". Для археалёгаў поўную няяснасьць станавіла слова „нарецаемои". Магчыма, што славянскае слова „решчи (нареченны)" было выйшаўшы з ужытку ўжо ў тыя часы, і калі давалася імя дзіцяці пры нараджэньні, яно ня ўжывалася. А ўжывалася тады, калі давалася прырачэньне Богу, гэта значыць пры ўступленьні ў манаства, і тады прыймалася „нарачонае" імя. Для ўласьніцы пячаткі яно было так важнае, што яго, як кажуць, сілком уціснулі, умесьціўшы канец слова на вольным месцы каля пляча Ефрасіні, парушыўшы гэтым мернасьць прыгожай кампазыцыі.



Падобныя да гэтае, пячаткі ўжываліся ў дванаццатым веку. Звычайна, на мужчынскіх пячатках на адным баку быў абразак сьвятога — патрона ўласьніка пячаткі, — а на другім — вобраз сьвятога — патрона бацькі ўласьніка; значыць, падавалася імя ўласьніка й імя па бацьку.

На жаночых, княгіньных пячатках, на адным баку быў адціснуты абразок аднаіменнай сьвятое, а на другім — абразок сьвятога, аднаіменнага мужу, а ня бацьку. На новазнойдзенай пячатцы цэнтральнае месца займае вобраз Хрыста ў кампазыцыі Перамяненьня Госпадняга. З гэтага вынікае, што ўласьніца пячаткі прырачоная Хрысту й жыла ў Праабражэнскім-Спасаўскім манастыры, як манашка. Тое-ж, што гэтая асоба мела ўласную пячатку, чаго не належыць мець звычайным манашкам, паказвае, што яна займала асобнае й паважнае месца ў палітычным жыцьці таго часу.

Бязумоўна, пячатка гэтая належыць манашцы Ефрасіні, князёўне Полацкай, дачцы Сьвятаслава-Юрыя (сына Усяслава Вялікага), якая пры пасяленьні ў Сяльцы пад Полацкам, дзе быў загародны дом Сафійскага Сабору й пры ім Праабражэнская Царква, заклала там першы манастыр пры гэтай царкве.

Паўстае пытаньне: чаму манахіня Ефрасіня карысталася пячаткаю для сьцьверджаньня нейкіх урадавых дакумэнтаў, што звычайна не належыць да дзейнасьці манаскай? Высьветліць гэтае пытаньне памагаюць знаходкі іншых полацкіх пячатак таго часу. Яшчэ ў першыя гады нашага сталецьця на Ноўгарадзкім Гарадзішчы была знойдзена маленькая пячатка-була з абразкамі сьвятых Соф'і й Юрыя. Другая, акурат такая-ж, выяўлена нядаўна, у 1962 годзе, у Латвіі пры раскопках старадаўнага Кукейноса, падлеглага тады Полаччыне. Абедзьве пячаткі жаночыя; адбітыя абразкі на іх дакладна падобныя на абразкі сьвятых Соф'і й Юрыя, умешчаных на крыжы Сьвятой Ефрасіні; іх даты можна з упэўненьнем спалучыць з дзейнасьцяй маці Ефрасіні — полацкай княгіні Соф'і —жонкі Сьвятаслава-Юрыя Ўсяславіча. Ведамая яшчэ адна полацкая пячатка, знойдзеная ў 1962-ім годзе пры раскопках у самым Полацку, у пластох на стыку 12-13 сталецьцяў. Гэтая пячатка ня так выразная, як папярэднія, хоць-жа выкананая ня горш. На адным баку яе архангел, на другім — сьвятая з нячытэльным (зьбітым) імём. І яшчэ пячатка, жонкі якогась князя Міхаіла.

Чаму-ж у тагачасным Полацку не трапляюцца пячаткі князёў, а толькі княгіняў? Княгіня, невядомая на імя, княгіня Соф'я, княгіня Ефрасіня. І ня толькі жанчыны сьвецкія, але й манахіня, займаюцца такімі справамі, як афармленьне афіцыйных дакумэнтаў. Граматы з іхнымі пячаткамі трапляюць у Кукейнос і ў дальні Ноўгарад. Полацкая княгіня не сядзіць у жаночай палавіне княжага двору, а навет і манастыр не дае ёй супакою: яна мае дачыненьне з дальнімі землямі, кіруючы Полацкім Княствам.

Дзеля высьсненьня гэтага зьявішча неабходна пазнаёміцца з палітычнымі падзеямі другой чвэрці 12-га веку. Да таго часу азнакай жыцьця Полацкага Княства была яго выразная самастойнасьць. Асабліва гэта моцна дэманстравалася за часоў славутага князя Ўсяслава Брачыславіча, празванага Чарадзеем, пра якога з гневам і зайздроснай узьнёсласьцю адначасна, успамінаецца ў „Слове о полку Ігореве". Па сьмерці Ўсяслава Полацкае Княства стала раздрабняцца на паасобныя княствы, і не станавіла ўжо такой паважнай сілы. Кіеўскі князь Уладзімер Манамах граса-

ваў па Менскім Княстве, паланіўшы князя Глеба Ўсяславіча, які й памёр у кіеўскім парубе у 1119-м годзе. Калі па сьмерці Манамаха полацкія князі, ужо пры сыне Манамаха Мсьціславе, прабавалі адпомсьціць за нішчэньне краю і ўнезалежніцца зусім ад Кіева, дык выклікалі новыя паходы кіеўскіх князёў на Полаччыну. Асабліва няшчасны для полацкіх князёў быў злучаны паход кіеўскіх князёў у 1127-м годзе; і пасьля двухгадовага змаганьня, у 1129 годзе Мсьціслаў расправіўся з полацкімі князямі, адправіўшы іх у ссылку ў Візантыю. З таго часу аж да 50-х гадоў 12-га веку весткі пра княжы род Полацку амаль зьнікаюць з балонак летапісаў. Толькі пад 1132-м годам паведамляецца пра пачатак княжаньня брата Прадславы-Ефрасіні Васілька, а пад 1151 годам — пра пазбаўленьне Полацкага пасаду князя Рагвалода, сына Барыса (самымі палачанамі). Па колькі год яны князявалі — няведама.*)

Зусім зразумела, што ў той час полацкаму княжаму роду прышлося перажыць ліхалецьце. Дакладнейшых дадзеных з жыцьця тагачаснай Полаччыны няма. А выяўлены з пячатак Полацкі „матрыярхат" можа азначаць толькі адно: у трыццатых — пяцьдзясятых гадох 12-га веку Полацкім Гаспадарствам кіравалі пераважна жанчыны. У іх ліку — а можа й перадусім — былі: княгіня Соф'я, жонка Сьвятаслава Ўсяславіча, і іх дачка Прадслава, нарачоная Ефрасіня, якую сьцены манастырскія не ўхавалі ад сьвецкіх клопатаў.

(Паводля часапісу „Знание — Сила", № 12 за 1970 г. Выд. у СССР. Арт. В. Яніна „Полоцкий Матриархат").

---

*) Леў Гарошка ў сваім нарысе — „Сьв. Еўфрасіня-Прадслава" (Парыж, 1950 г.) — падае дату княжаньня Васілька з 1132-га па 1143 год. Высланыя-ж у Візантыю былі сыны Ўсяслава: Давід, Расьціслаў і Сьвятаслаў — бацька Ефрасіні, — а Раман † 1116, Глеб † 1119, Барыс † 1128, Рагвалод † 1129 ужо былі памершы. Там-жа падаецца, што князі былі высланыя з жонкамі й дзяцьмі, але знойдзеныя пячаткі гэтаму пярэчаць, асабліва, што да Ефрасіні, бо ў яе жыцьцяпісах было-б гэта адзначана.

## НАРАДА САБОРУ ЕПІСКАПАЎ

Ад 17 па 20-е лютага, у канцылярыі Высокапраасьвячэннага Мітрапаліта Андрэя ў Кліўленьдзе адбылася нарада Сьвячэннага Сабору Епіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, на якой абмяркоўваліся бягучыя праблемы.

У сувязі з прыпадаючымі 800-мі (1173) ўгодкамі сьмерці Сьвятое Ефрасіні Полацкае пастаноўлена наладзіць 3-га чэрвеня сёлета ўрачыстае адзначэньне гэтых угодкаў ў Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага, 401 Атлянтык Эвэ., Бруклін, Нью Ёрк.

Ачоліць Божую Службу Высокапраасьвячэнны Мітрапаліт Андрэй у саслужэньні Епіскапаў і духавенства.

**Прат. Васіль Кендыш**
Сакратар



# МІТРАПАЛІТ ГРЫГОРЫ ЦАМБЛАК

(Працяг з № 37-га)

Апрача акту пастаўленьня Грыгора Цамблака на Мітрапаліта на Саборы ў Навагрaдку, захавалася яшчэ пасланьне Сабору Епіскапаў да Мітрапаліта Маскоўскага Фоція наступнага зьместу:

„Фоцію, былому некалі Мітрапаліту Кіеўскаму і ўсяе Русі. Мы Епіскапы Кіеўскай Мітраполіі, з Ласкі сьв. Духа, пішам і заяўляем наступнае: з самага пачатку твайго прыходу мы бачылі, што ты шмат робіш нязгодна з апостальскім правілам устаўным; але мы цярпелі цябе згодна правілаў, як свайго Мітрапаліта, і чакалі ад цябе папраўкі. Тое-ж, што мы пачулі пра цябе і ўзапраўднасьці пераканаліся ў некаторых справах, ня толькі нязгоднае з правіламі царкоўнымі, але ставіць віноўніка пад пазбаўленьне й праклён — у чым і сам, спраўдзіўшы сваё сумленьне, прызнаешся; хоць мы не называем тае справы, ня хочучы цябе засароміць, але абвяшчаем табе, што мы не прызнаём цябе больш праўным Епіскапам, і гэтае нашае да цябе апошняе слова". (Гісторыя Рускай Царквы, Мітр. Макарыя, том 4-ты, бал. 95. Акты Зап. Расеі №№ 23, 24, 25).

На гэтае пасланьне маскоўскі Мітрапаліт Фоцій разаслаў сваё пасланьне, у якім рэзка выступіў супраць пастановы Наваградзкага Сабору й выданага Епіскапамі пасланьня. Ён абвінавáціў Мітрапаліта Грыгора ў адступніцтве й заклікаў усіх праваслаўных у Ліцьве не прызнаваць Мітрапаліта Грыгорыя Цамблака, а трымацца яго — Фоція. А Масква ад сябе пастаралася адмоўна высветліць Канстантынопальскаму Патрыярху заіснаваўшы факт утварэньня асобнае Беларускае Мітраполіі (у той час — Літоўскае — Рэд.). Патрыярх Язэп II ў лісьце у 1416-ым годзе да Мітрапаліта Фоція выказаў у справе ўтварэньня двух Мітраполіяў вялікі жаль і асудзіў беларускіх Епіскапаў.

Зьмест пасланьня Мітр. Фоція й ліста Партыярха Язэпа II паказвае, што ўсё дзеялася згодна фальшывага дзеяньня маскоўскіх князёў, і што ў аснове закалотаў не матывы кананічнасьці, а палітыка маскоўскіх і візантыйскіх уладаў. Змаганьне за пяршэнства й кіравецтва Кіеўскай Мітраполіяй не закончылася толькі ў форме пасланьняў, але ў 1416 годзе у Маскве ў Нядзелю Праваслаўя, у прысутнасьці Мітрапаліта Фоція, была прагалошага анафема на Грыгорыя Цамблака.

Аднак, усе гэта не зацьміла ягоных дзеяньняў, каб стацца ведамым у сусьветнай гісторыі. Гістарычныя дадзеныя характарызуюць яго як йерарха, абдараванага высокімі духоўнымі якасьцямі. Быў ён найбольш асьвечаным чалавекам у сваім часе. У гісторыі расейскае царквы напісана, што ён „ад дзяцінства быў навучаны ўсякае кніжнае прамудрасьці, а ягонае красамоўства прыцягвала ўвагу слухачоў". Ён пакінуў па сабе 26 твораў, якія карысталіся павагаю сярод Беларусаў. Яшчэ ў 15-ым ст. ягоныя казаньні ўжо ўносіліся да царкоўных зборнікаў і ставіліся нароўні з казаньнямі Яна Залатавуснага, хоць імя аўтара на казаньнях ня было адзначана. Пазьней Маскоўскі Мітрапаліт Макары ўлучыў яго творы ў Чэт'і Мінэі.

На асаблівую ўвагу заслугоўваюць ягоныя: „Слова пра 35 памылак і адыход лаціньнікаў ад праваслаўнае веры й абрадаў; слова на Ўсьпеньне Прасьвятое Багародзіцы; казань пра мукі Яна Новага ў Белградзе, і казаньні на розныя сьвяты й паасобныя выпадкі, як пахвальнае слова

ў памяць Мітрапаліта Кіпрыяна. Датаго-ж быў ён знаўцам царкоўнае музыкі, і сам пакладаў мэлёдыі на ноты.

Царкоўны гісторык Архіепіскап Макары лічыў Мітрапаліта Грыгорыя адданым сынам Праваслаўнае Царквы, а прафэсар Галубінскі кажа, што яму належыць ганаровае месца ў гісторыі славянскае літаратуры.

Сваім красамоўствам, мудрасьцю й, наагул, дастойнасьцю ён і зьвярнуў на сябе ўвагу Вялікага Князя Вітаўта, які вырашыў паставіць яго Мітрапалітам.

Пра тое, што Мітрапаліт Грыгоры быў дбайлівым абаронцам Праваслаўнае веры, у летапісах адзначаны наступны факт. Адзін раз Грыгоры зьвярнуўся да Князя Вітаўта з пытаньнем: „Чаму ты, князь, трымаешся лацінскае веры, а не праваслаўнае грэцкае?” Вітаўт адказаў: „Калі ты хочаш бачыць ня толькі мяне аднаго, але і ўсіх людзей на зямлі маёй у грэцкай веры, пайдзі ў Рым і спаборнічай з Папам і яго мудрацамі. Калі пераможаш,усе мы прымем грэцкі абрад і звычаі; а калі не, дык я ўсіх маіх падуладных грэцкае веры падпарадкую лацінскаму абраду” (Макары, том 4, бал. 100).

І Мітрапаліт Грыгоры быў высланы, але толькі ня ў Рым, а на Сабор у Канстанцы. Прычынаю гэтаму, магчыма, былі палітычныя меркаваньні Вітаўта дзеля атрыманьня помачы ад Папы, бо ў тым часе было змаганьне з Крыжакамі, і насоўвалася нябясьпека з боку Масквы.

Мітрапаліт Грыгоры разам з сваімі баярамі прыехаў у Канстанц пад канец сабору (18 лютага 1418 г.). У тым самым часе зьявіліся на сабор і паслы грэцкага Імпэратара Мануіла, якім было даручана распачаць перамовы з Папам за злучэньне Цэркваў.

Мітрапаліт Грыгоры паехаў на Сабор ня з уласнае ініцыятывы, а паслаў яго туды князь Вітаўт, які пасылаў гэтак сама не з свае волі, але на жаданьне свайго стрэчнага брата, польскага караля Ягайлы. Аб злучэньні Цэркваў, аднак, на Саборы не разважалася, і Грыгоры павінен быў вярнуцца ні з чым. Згодна асьветчаньня аднаго з дэлегатаў ад духавенства, прадстаўнікі ад праваслаўных зьявіліся на Сабор з граматаю ад князя Вітаўта, і на запытаньне лаціньнікаў — ці жадаюць яны падпарадкавацца рымскай Царкве, — рашуча адказалі, што „яны прыбылі на загад свайго князя й падпарадкавацца Папе не жадаюць”. (Ніканаўскі Летапіс, т. 5, 70).

Інфармацыяў пра прамову Мітрапаліта Грыгорыя Цамблака ў справе злучэньня Цэркваў таксама да гэтага часу ня знойдзена, але знойдзены адказ на пастаўленае яму пытаньне. Аб гэтым паведамляе прускі летапісец Ліндэблянд, які таксама падае, што на запытаньне ў дэлегатаў з Вялікага Княства Літоўскага „ці яны жадаюць быць хрысьціянамі”? (бо да таго часу Рым лічыў праваслаўных з краінаў няверных), Мітрапаліт Грыгоры праз польскіх паслоў караля Ягайлы адказаў: „ён можа гаварыць пра веру, але падпарадкавацца польскай уладзе ня мае намеру”; і дадаў, што яго дэлегаты прыехалі на Сабор толькі таму, што гэтага жадаў Вітаўт. Такая заява Мітрапаліта Цамблака паставіла палякоў у вельмі прыкрае становішча, і пляны аб злучэньні Цэркваў адпалі. (Згодна нямецкага летапісца Рэйхэнталя, том. 2, б. 255).

У верасьні 1419 году Мітрапаліт Грыгоры вярнуўся з Канстанцы ў Кіеў. Ня суджана было яму быць доўга Мітрапалітам і працаваць для дабра Беларускага Народу. Ягоная паездка на Сабор выклікала зашадозраньне з боку праваслаўных у прыхільнасьці да вуніі, а непахісная стойкасьць у абароне Праваслаўнае веры наставіла варожа да яго Вялікага Князя Вітаўта. І згодна некаторых летапісаў Грыгоры пасьля павароту з Канстанцы ў тым самым годзе памёр у Кіеве нібы ад пошасьці, якая лютавала тады ў горадзе. Згодна-ж румынскіх царкоўных гістарычных летапісаў ён дабраахвотна зрокся становішча Мітрапаліта й пераехаў напачатку ў Сэрбію, а каля 1431-1432 г. пераехаў у Малдавію ў Румыніі, і там яшчэ доўга працаваў над укладаньнем румынскага алфабэту і над апрацоўкаю кніг у царкоўна-славянскай мове для Багаслужбаў.

Час ягонае сьмерці й далейшая ягоная праца праз доўгі час ня былі высьветлены. І толькі на пачатку гэтага сталецьця расейскі дасьледчык А. Яцымірскі выкрыў, на падставе ўласнаручных рукапісаў схімніка нямецкага манастыра Гаўрыіла, які дзейнасьць сваю ў Малдавіі распачаў у дваццатых гадох 15-га сталецьця, і выясьнена, што тым схімнікам быў ні хто іншы, як Мітрапаліт Грыгоры Цамблак.

Больш за трыццаць гадоў пасьля выезду з Літвы Грыгоры яшчэ займаўся царкоўна-асьветнаю працаю ў Малдавіі, дзе напісаў шмат кніг.

Памёр прыблізна у 1452 годзе, пражыўшы 88 гадоў.

# АРХІЕПІСКАП ЯКАВОС ПРА РЭЛІГІЙНАЕ АДРАДЖЭНЬНЕ

„Рэлігія, як жывое дасьветчаньне”.

На прэсавай канфэрэнцыі, якая адбылася з нагоды пасьвячэньня царквы Прасьвятой Тройцы й сьв. Мікалая ў Цынцынаты, Архіепіскап Якавос, Экзарх Усяленскага Патрыярха на Амэрыку, сказаў да прысутнага каталіцкага й пратэстанскага сьвятарства:

„Тое, што крытыкі называюць адміраньнем экуменічнага руху, — гэта толькі перажыцьцё крызысу самаацэнкі. Важнасьць экуменічнага руху ў ЗША палягае ў тым, што рэлігійныя групы навучыліся жыць умеркавана, не адчуваючы комплексу малавартасьці ці вышэйшасьці”.

Архіепіскап Якавос выказаўся оптымістычна й пра стан рэлігіі наагул. Ён сказаў: „Я прачуваю, што мы йдзём да рэлігійнага адраджэньня й да лепшага й добра абгрунтаванага разуменьня рэлігіі, як асабістае адказнасьці”. Далей казаў, што сучасная моладзь становіць для старэйшых вартаснае высьвятленьне ў тым, што цяпер настаў час для рэлігіі, як жывога досьледу, перажыцьця рэлігіі ўсімі сіламі душы, а ня толькі самай рэлігійнай прыналежнасьці.

„Маладое пакаленьне, — гаварыў Архіепіскап Якавос: — паказвае нам, што мы дапусьціліся да жалюгоднае няўдольнасьці ў тым, што не дапамаглі яму пераняць рэлігію як жывое дасьветчаньне — перажыцьцё. У сваіх намаганьнях дайсьці да таго рэлігійнага перажыцьця, якога мы не дапамаглі ім знайсьці, маладыя людзі часта гінуць, удаючыся да наркотыкаў”.

## ПАДЗЯКА

Др. Мікалай Шчорс, замест кветак на магілу сьв. пам. а. Віктара Войтанкі, пераслаў праз Кансысторыю на Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву 100.00 (сто) даляраў.

З шчырай падзякай.

**Прат. Васіль Кендыш — Сакратар**

Сьв.  Пам.

**АЛЯКСЕЙ ВІНІЦКІ**

настаўнік і заслужаны дзеяч закончыў сваё працавітае жыцьцё 23 лістапада 1972 г. і пахаваны ў Лёс Анджэлесе на магільніку Інглвуд Сэметэры Парк.

Шчырае спачуваньне Сем'ям Нябожчыка ад шматгадовага прыяцеля Прат. Васіля Кендыша з сям'ёю.

Няхай Госпад Бог прыме душу ягоную ў Сваё Ўладарства нябеснае.

## СЬВ. ПАМЯЦІ ЭЛІЗАБЕТ ПРОКТЭР

Дзелімся сумнаю весткаю, што з Волі Ўсемагутнага 25-га студзеня 1973 году на 72-ім годзе жыцьця адыйшла на вечны супачынак вялікая прыяцелька Беларусаў у Англіі — ЭЛІЗАБЕТ ПРОКТЭР.

Няшмат у сучасным сьвеце ёсьць падобных ёй людзей, якія адзначаюцца гэткімі духовымі якасьцямі. Будучы ангелькаю яна была адначасна пабожнаю сястрою Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ганароваю сяброўкаю Згуртаваньня Беларусаў ў Вялікабрытаніі, дарадніцай у рэлігійна-грамадзкім жыцьці Беларусаў у Англіі, зь якімі была заўсёды ў сьціслым кантакце; яе любілі й шанавалі.

Яна спрычынілася сваёю ахвярнаю працаю, а найбольш матар'яльнаю дапамогаю да зарганізаваньня беларускага нацыянальнага жыцьця ў Брадфордзе, і дзякуючы яе матар'яльнай дапамозе быў набыты Беларускі Грамадзкі Дом, які адказваў усім умовам арганізацыйнага жыцьця й які адначасна стаў цэнтрам Царкоўнага жыцьця БАПЦарквы.

Памяць аб ейнай ахвярнасьці й дабрачыннасьці для а. Аляксандра, якую яна аказала ў часе арганізацыі БАПЦарквы, ніколі ня можа быць забытаю, а пераказвацца ў пакаленьні.

Ня можна ня ўспомніць і ейнае ахвярнае фізычнае працы, якую яна аказала ў часе аднаўленьня й дэкараваньня набытага дому, падбадзёрваючы гэтым іншых Беларусаў да дзейнасьці. Ейныя мудрыя й мілыя словы заўсёды былі пацехаю ў прыватных гутарках і на кажных імпрэзах, якія ладзіліся ў Беларускім Доме.

Вестку аб ейнай сьмерці Беларусы ў Англіі ўспрынялі з вялікім сумам, бо страцілі мілую й добрую хрысьціянскую душу.

Паховіны адбыліся ў панядзелак 29-га студзеня на мясцовым магільніку ў Брадфордзе. Апошнюю пашану ад Беларускіх арганізацыяў для пакойнай аддалі: Аляксандар Калько — заступнік Старшыні Галоўнае Ўправе ЗБВБ, Янка Калбаса — Сакратар Рады Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Вялікабрытанію, Віценчык — ад Аддзелу ЗБВБ ў Манчэстэры, М. М. Калько ад Беларускага Грамадзкага Клюбу „Сакавік" і найбліжэйшыя прыяцелі памершае.

Няхай Госпад Бог упакоіць яе душу, дзе спачываюць усе праведнікі.

ВЕЧНАЯ ЁЙ ПАМЯЦЬ!

**Уладыка Андрэй**



# НОВАЯ ЦАРКВА У МАНЧЭСТЭРЫ



Рада Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Вялікабрытаніі шчыра дзякуе ўсім ахвярадаўцам за ахвяры на куплю Царквы ў Манчэстэры.

Нам вельмі прыемна бачыць шчырасьць, адданасьць і прыхільнасьць да БАПЦарквы ўсіх вернікаў і прыхільнікаў Яе, якія ў хуткім часе адгукнуліся й прыслалі ахвяры на куплю ўласнае царквы.

За Вашыя ахяры царква набытая. Вернікі Парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Манчэстэры прылажылі вялікія высілкі, каб набыты будынак давесьці да належнага выгляду. За ўсё гэта Рада БАПЦарквы складае ім шчырае беларускае дзякуй. Ласка Божая няхай будзе з усімі імі.

Сьвятарства, Сябры Рады й вернікі БАПЦарквы выказваюць шчырую падзяку Высокапраасьвячэньнейшаму Мітрапаліту Андрэю за Ягонае дабраславенства й пачын — першы ўклад на куплю Царквы.

Задоўжанасьць на куплю, рамонт царквы й далейшы развой рэлігій-



*Высьвячэньне Царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Манчэстэры*

нага жыцьця вымагаюць фінансавага забясьпечаньня, а таму ветліва просім Вас пры кажнай магчымасьці працягваць зборку ахвяраў і перасылаць на адрыс Прат. а. Яна Абабуркі ў Манчэстэры:

Very Rev. John Ababurko
22 Daresbury Street, Sheatham,
Manchester, 8. England

**Янка Калбаса**
Сакратар Рады БАПЦарквы
ў Ангельшчыне

## Ліста ахвярадаўцаў на куплю царквы

1. Уладыка МІТРАПАЛІТ АНДРЭЙ ..................... 190.00
2. Царкоўны Камітэт Парафіі БАПЦ ў Манчэстэры 200.00
3. Міхась і Янка Пратасэвіч 120.00
4. Прат. а. Янка й Матушка Абабурка ..................... 100.00
5. Аўген і Марыя Варэнік .. 100.00
6. Уладзімер і Варвара Гінько ................................ 100.00
7. Ніна й Багдан Радух ...... 100.00
8. Хвёдар і Марыя Лемяшонак ........................... 100.00
9. Беларускі Грамадзкі Клюб ў Манчэстэры ............. 200.00
10. Бел. Харытатыўная Сэкцыя пры ЗБВБ ........... 100.00
11. Рада БАПЦ ў Вял. Брыт. 100.00
12. Парафія БАПЦ ў Гайлэнд Парк, ЗША ........ 91.05
13. Хведар і Кляра Кажаневіч 75.00
14. Сяргей Рагель ................. 55.00
15. Зося і Георгі Ефімаў ........ 50.00
16. Янка Бурновіч ................ 50.00
17. Кастусь Варэнік ............... 50.00
18. Сымон Шафаловіч ............ 50.00
19. Александар і Кацярына Шпігуновіч .................. 30.00
20. Мікола й Зося Гайда ...... 26.00
21. Іван Талмачоў ................. 25.00
22. Мікола Шаўчэнка ........... 25.00
23. Алекс. і Марыян Калько .. 25.00
24. Варвара Лімбэрт ............... 25.00
25. Алякс. Міцкевіч, ЗША .... 19.53
26. З Каляднага прыняцьця ў Манчэстэры ............... 18.50
27. Анна Магілясон ............... 43.00
28. Інж. Міхась Шводзюк .... 15.00
29. Алекс. і Раіса Довідаў .... 12.00
30. Ануфры Занько ............... 10.00
31. Александар Слонімскі .... 10.00
32. Алекс. і Яніна Рудзяк .... 10.00
33. Уладзімер і Іліся Сухы .. 10.00
34. Янка й Алена Міхалюк .. 10.00
35. Марыя Дурэйка ............... 10.00
36. Янка Гралеўскі ............... 10.00
37. Кастусь Шыбіцкі ............. 10.00
38. Александар Нерад ........... 10.00
39. Люба Лімон ..................... 10.00
40. Я. С. Палячка ................... 10.00
41. Александар Куцько .......... 10.00
42. Др. Уладзімер Бакуновіч, ЗША 7.93
43. А. Францішак Чарняўскі 7.53
44. Васіль і Александар Ахрыменка ........................ 7.20
45. Віктар Сідаровіч ............. 6.00
46. Анатолі Палікоў ............... 5.00
47. Марыя Капач .................... 5.00
48. Міхась Баяроўскі ............. 5.00
49. Міхась Ёўлеў .................... 5.00
50. Міхась Прошка ............... 5.00
51. Алесь Жданковіч ............. 5.00
52. Барыс Няслухоўскі .......... 5.00
53. Мікола Стаднык ............... 5.00
54. Уладзімер Грубы ............. 5.00
55. Вацлаў Добжыцкі ............ 5.00
56. Мікалай Камароўскі ........ 5.00
57. Міхась Яськевіч ............... 5.00
58. Мікалай Пятрукоўскі ...... 5.00
59. Мікалай Мацукевіч .......... 5.00
60. Мікалай Шупэнік ............. 5.00
61. Мікалай Бялоўс ............... 5.00
62. Рыгор Шырыська ........... 5.00
63. Мікалай Зорка ................. 5.00
64. Кастусь Смактуновіч ........ 5.00
65. Барыс Лісаў ..................... 5.00
66. Александар Дубко ........... 5.00
67. Клеапітра Зіманд ............. 5.00
68. Васіль Жур ....................... 5.00
69. Янка Калбаса .................... 5.00
70. Мікалай Лазовік ............. 5.00
71. Васіль Дахно ................... 5.00
72. Барыслаў Гай Пікарда .... 8.00
73. Барбара Мідэйла ............. 3.00
74. Ірэна Брытон .................... 8.00
75. Дзімітр і Еліз. Каралькоў 6.00
76. К. Глінскі ......................... 2.00
77. Мікалай Мацукевіч ......... 2.00
78. Ян Варвашэвіч ................ 2.00
79. Ніна Нікулін .................... 2.00
80. Станіслаў Шунько ........... 2.00
81. Алесь Гэрасіма ................ 1.00
82. Я. Наваградзкі ................ 1.00
83. Кастусь Пашкоўскі .......... 1.00
84. Янка Пшэнічны ............... 20.00
85. А. Калесьнікаў ................ .50
86. Уладзімер Тарлецкі .......... 5.00
87. Др. Раіса й Вінцук Жукгрышкевіч ................... 32.12
88. Бел. Калёнія ў Бэльгіі .... 36.00
89. Павал Мётла ................... 5.00
90. Янка Мазура ................... 15.00
91. Марыя Селяжнёў ............. 3.00
92. Тацяна Несьцерава ........... 5.00
93. Еўдакія Робежымава ........ 5.00
94. С. А. Чэрнякульскі ........... 5.00
95. Станіслаў Гатоўка ........... 5.00
96. Беларускі Грамадзкі Клюб „Сакавік", Брадфорд .... 50.00
97. На прыняцьці ў Манчэст... 11.17
98. Група Казакоў ................. 10.00
99. Уладзімер Карніловіч ...... 15.00
100. Іван Іванавіч ................... 5.00
101. Іван Марковіч ................. 10.00
102. Васіль Басякоў ............... 5.00

**Разам: 2.655.98**



## ДА ЧЫТАЧОЎ

Рэдакцыя „Голасу Царквы" спадзяецца на большую падтрымку свайго часапісу — падтрымку й матарыяльную й духовую праз допісы й супрацоўніцтва. Дзеля гэтага скіроўвае напамінак і просьбу помачы, перадусім да вернікаў БАПЦарквы, а й да ўсяго беларускага грамадзтва.

**Рэдакцыйная Калегія**

## СЬВЯТОЙ ПАМЯЦІ
## ПЁТРА РЭПЧАНКА

Народжаны 28-га лютага 1918 году ў сяле Дашкаўка, Быхаўскага р-ну Магілеўскае акругі, пасьля цяжкой хваробы адыйшоў у вечнасьць 26-га лютага 1973 году. Пахаваны дня 29-га лютага на магільніку ў Кэнт, Огайо. Пахавальныя Багаслужбы й провад на магільнік выканаў Уладыка Андрэй. Нябожчык пакінуў у жалобе жонку Александру, дачку Аўгеню, сына Віктара, зяця і ўнучку. Няхай лёгкаю будзе яму Амэрыканская Зямля!

**Прыяцелі з Кліўленду й Мэнтару**

Сьв. памяці Пётра Рэпчанка прыехаў з Нямеччыны ў Амэрыку адным з першых транспартаў разам з іншымі беларускімі ўцекачамі. Напачатку пасяліўся ў Кліўленьдзе, дзе належаў да ініцыятыўнае групы ў арганізаваньні першага Беларускага Камітэту ў Кліўленьдзе. Быў сьведамым Беларусам і шчырым вернікам БАПЦарквы, і наведваў Царкву навет і пасьля пераезду на жыцьцё ў Мэнтар. Ягоная нацыянальная сьведамасьць і рэлігійная адданасьць сваёй роднай Царкве выявілася ў ягоным прадсьмяротным запавеце, каб абрад паховінаў над ім быў выкананы ў БАПЦаркве беларускім духоўнікам, што й было выканана.

Быў добрым бацькам і моцна любіў сваіх дзяцей, а дзеля гэтага прылажыў усе магчымасьці, каб дзеці атрымалі належную асьвету. Дачка атрымала педагагічную асьвету й цяпер настаўніцай, а сын у гэтым годзе канчае вышэйшую навуку.

Вечная памяць любаму грамадзяніну й бацьку!

## АД КАНСЫСТОРЫІ БАПЦАРКВЫ

**На наш заклік з 21 верасьня 1972 году атрыманы ахвяры на Кансысторыю:**

**З Парафіі Бруклін, Нью Ёрк:**

| | |
|---|---|
| Др. Уладзімір Набагез | 100.00 |
| Мікалай Гарошка | 75.00 |
| К. Тумаш | 50.00 |
| Александар Міцкевіч | 30.00 |
| Кастусь Верабей | 20.00 |
| П. Драздоўскі | 10.00 |

**З Парафіі Гайлэнд Парк, Н. Дж.:**

| | |
|---|---|
| Аляксей Балкоўскі | 20.00 |
| Аўген Лысюк | 20.00 |
| Павал Кулеш | 10.00 |
| Алег Дубяга | 10.00 |
| Янка Азарка | 6.00 |
| Пётра Кажура | 5.00 |
| Уладзімір Сьліўка | 5.00 |
| Міхал Сільвановіч | 5.00 |
| Александар Сільвановіч | 5.00 |

**З Парафіі Кліўленд:**

| | |
|---|---|
| Кастусь Калоша | 20.00 |

**З Канады:**

| | |
|---|---|
| Б. Прыстаўка | 20.00 |
| К. Каранеўскі | 20.00 |
| Н. Пракопчык | 10.00 |
| А. Протас | 10.00 |
| С. Мацукевіч | 10.00 |
| Г. Нікан | 10.00 |
| Т. Даўгель | 3.00 |

**Іншыя:**

| | |
|---|---|
| Др. Мікалай Шчорс | 100.00 |
| Др. А. Санковіч | 50.00 |
| М. Навіцкі | 50.00 |
| Праф. Леў Акіншэвіч | 30.00 |



# ХРОНІКА

## З ЖЫЦЬЦЯ БЕЛАРУСАЎ У МАНЧЭСТЭРЫ

Гадавіну Слуцкага Збройнага Чыну ў Манчэстэры Беларусы адзначылі 26-га лістапада 1972 году. Пасьля Божае Службы, якую адправіў Пратаерэй Ян Абабурка, была адслужана Паніхіда па тых, якія „аддалі сваё жыцьцё, каб жыла Бацькаўшчына". Айцец Абабурка сказаў прыгожую казань, прысьвечаную памяці загінутых у часе Слуцкага Змаганьня. Акадэмія адбылася ў новапасьвячанай прасторай царкоўнай залі. Адкрыў акадэмію старшыня мясцовага аддзелу ЗБВБ Х. Кажаневіч, прапануючы прысутным хвілінаю цішыні ўшанаваць памяць загінутых Случчакоў, і ён-жа прачытаў даклад на тэму Слуцкага Змаганьня. Пасьля акадэміі адбыўся пачастунак.

***

30. 12. 1972 г. была арганізаваная ялінка для дзяцей. Арганізацыйнай часткай і падрыхтоўкай кіравала сястра Кляра Кажаневіч з дочкамі Надзяй і Нірванай. Трэба адзначыць, што імпрэза прайшла вельмі ўдала, і дзеці былі вельмі задаволены з атрыманых падарункаў, якімі надзяліў іх Сьв. Мікалай. На імпрэзу сабралася каля 50-і дзяцей. За ўмелую падрыхтоўку імпрэзы належыцца шчырая падзяка, як сястры Кляры, гэтак і яе дочкам.

***

Сьвяткаваньне Праваслаўных Калядаў у Манчэстэры адбылося 7-га студзеня 1973 году. А гадзіне 10:30 адбылася Багаслужба, якую адправілі а. прат. Ян Абабурка і а. Я. Пякарскі. Усе прысутныя вельмі радаваліся, што сёлетняя Калядная Багаслужба адбывалася ў свёй роднай Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царкве. На Багаслужбе прысутнічалі ня толькі вернікі з Манчэстэру, але прыехалі аўтабусам і Беларусы з Брадфорду, а таму на Багаслужбе прысутнічала больш за 200 асоб.

Адразу пасьля Багаслужбы ў прасторнай царкоўнай залі адбылося прыняцьцё. Адкрыў застольную бяседу старшыня Парафіяльнае Рады Яськевіч, просячы прысутных айцоў асьвяціць ежу. У часе банкету прыгожая 6-ці гадовая дзяўчынка Юльяна Калбаса падала падарунак Настаяцелю парафіі прат. Яну.

Пасьля спажыцьця калядных патраваў прамаўляў Сакратар Рады

| | | | |
|---|---|---|---|
| Мікалай Сьнежка | 20.00 | Міхась Махнач | 10.00 |
| Н. Грэбень | 20.00 | С. Янкоўскі | 5.00 |
| Аркадзь Ліхач | 20.00 | М. Хатырка | 5.00 |
| А. Лук'янчык | 20.00 | Пётр Орса | 5.00 |
| В. Касароў | 10.00 | М. Рагалевіч | 5.00 |
| Люба Корчык | 10.00 | Павал Брушкевіч | 5.00 |
| В. Балтрушэвіч | 10.00 | С. Махахей | 5.00 |
| А. Мацукевіч | 10.00 | Ю. Андрусышын | 5.00 |
| | | Лявон Трусэвіч | 50.00 |

Усім ахвярадаўцам Кансысторыя складае шчырую падзяку. Мы спадзяёмся, што і ўсе іншыя нашыя суродзічы, хоць спозьнена, але дашлюць сваю ахвяру.

БАПЦарквы на Вялікабрытанію Янка Калбаса. У часе прамовы ён зьвярнуўся да прысутных з просьбай злажыць ахвяры на карысьць Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, што й было праведзена й сабрана 38 фунтаў і 82 пэны.

Бяседа праводзілася ў сьвяточным настроі, і не зважаючы, што быў ужо даволі позны час, парафіяне з Брадфорду адведалі яшчэ й Беларускі Клюб, дзе забаўляліся да раніцы.

За арганізацыю сьвяткаваньня належыцца шчырая падзяка матушцы Кацярыне Абабурка й матушцы Пякарскай, сястры Б. Гінко й брату Гінко за вельмі прыгожае й добрае прыгатаваньне калядных патраваў.

**М. Яськевіч**

## З ПАРАФІІ Ў КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

У 1972 годзе БАПЦарква Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленьдзе, упрыгожылася яшчэ адным каштоўным падарункам ад парафіянаў казакоў, с-ва Кошкадаевых. На ахвяраваныя імі сьродкі быў выпісаны з Грэцыі прыгожы Сямісьвечнік у Алтар Царквы. Урачыстае асьвячэньне Сямісьвечніка выканаў Уладыка Андрэй дня 19-га кастрычніка 1972 году.

***

Ужо ўвайшло ў традыцыю, што парафіяне ў Кліўленьдзе кожны год урачыста адзначаюць „Дзень Удзячнасьці". У мінулым годзе гэтая ўрачыстасьць адбылася дня 23-га лістапада.

У Царкве пасьля сьв. Літургіі быў адпраўлены Малебен Удзячнасьці, а пасьля ўсе сабраліся ў Царкоўнай залі, дзе на сталох ужо быў прыгатаваны абед з амэрыканскімі традыцыйнымі патравамі. Рэфэрат, прысьвечаны дню, прачытаў Уладыка Андрэй. Апрача Беларусаў на абедзе прысутнічалі парафіяне Казакі, якія віталі прысутных на абедзе палкімі прамовамі.

***

3-га сьнежня Ўладыка Андрэй, на запрашэньне Беларускіх Ветэранаў у Нью Джэрсі з нагоды 52-х угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну й 25-й гадавіны заснаваньня Беларускіх Ветэранаў у акрузе Нью Джэрсі, узначальваў Багаслужбу ў „Гайлэнд Парку" й прыймаў ўдзел у Ўрачыстай Акадэміі, якую ладзілі Беларускія Ветэраны.

***

52-я ўгодкі Слуцкага Змаганьня адзначыліся ў Кліўленьдзе 10-га сьнежня. Пасьля сьв. Літургіі была адпраўлена Паніхіда па Слуцкіх змагарох, якія загінулі ў змаганьні за Волю Беларусі. На акадэміі прысутныя мелі нагоду праслухаць беларускі мантаж, награны ў Мюнхене.

***

13-га студзеня, як і ў папярэднія гады, сябры Парафіяльнае Рады арганізавалі прыняцьцё для харыстых царкоўнага хору. Рэфэрат аб значэньні беларускае песьні прачытаў Уладыка Андрэй.

***

14-га студзеня 1973 г. была наладжана ялінка для дзяцей. Ініцыятарам гэтае забавы былаПарафіяльная Рада. У праграму ўвайходзіла дзіцячая дэклямацыя, забаўкі для дзяцей і раздаваньне сьвяточных падарункаў.

***

Беларусы ў Кліўленьдзе, якія наведваюць гарадзкую бібліятэку, бачачы, што там існуюць аддзелы іншых нацыянальнасьцяў, на працягу некалькіх гадоў рабілі захады аб дазволе адкрыць беларускі аддзел. Аднак просьбы адміністрацыя бібліятэкі заладжвала адмоўна. Гэта, аднак, не паўстрымала сьведамых Беларусаў далей прадаўжаць змаганьне да асягненьня належнае мэты і, дзякуючы настойлівасьці іх, Адміністрацыя бібліятэкі ў канцы мінулага году дазволіла беларускі аддзел адчыніць.

Ладную колькасьць кніжак у беларускай мове некаторыя Беларусы ўжо ахвяравалі. Афіцыяльнае адкрыцьцё Беларускага Аддзелу плянуецца зрабіць на Вялікодныя сьвяты.

***

У нядзелю 18-га лютага ў парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленьдзе адбыўся агульны перавыбарчы сход Парафіяльнае Рады. У склад новае Парафіяльнае Рады выбраны: Калоша Кастусь — на старшыню, Стрэчынь Андрэй — на заступніка старшыні, Дунец Уладзімер — на сакратара, Гумен Мікола — на скарбніка, Каляда Клаўдзя, Конанчук Тацяна й Літвінка Ўладзімер — сябры Рады. Пэнда Мікалай — стараста, Ярахові́ч Янка — заступнік старасты.

Рэвізыйная Камісія: Карпейка Янка, Яраховіч Астап, Васіль Анатоль.

## ПАРАФІЯ БАПЦАРКВЫ У МЭЛЬБУРНЕ

6-га студзеня 1973 г. — у Сьвяты Вечар, беларуская моладзь, пад старшынствам сястры Тамары, наведалі хаткі нашых суродзічаў абвяшчаючы Радаснае Сьвята Нараджэньня Хрыстовага — калядавалі. Шматлікія суродзічы былі заскочаны, калі спаткаліся з тымі нашымі звычаямі-традыцыямі, якія былі часткаю жыцьця яшчэ на Бацькаўшчыне, тым больш, што юнакі й юначкі былі апрануты ў нацыянальную вопратку ды мелі з сабой прыгожа аздобленую зьвязду.

7-га студзеня, сёлета ў дзень Каляд, пасьля Багаслужбы, ў прыцаркоўнай залі захадамі Параф. Рады, Парафііі БАПЦ ў Мэльбурне, была наладжана ялінка для беларускіх дзяцей. Лічная колькасьць дзяцей сабралася, каб „сустрэцца" з Дзедам Марозам, які абдарыў падарункамі: марожаным (бо тут у Аўстраліі лета), цукеркамі й ліманадай ды арэшкамі... Дарослыя сябры парафіі выкарысталі нагоду для наладжаньня супольнага пачастунку — абеду.

У гэтым годзе, як і папярэдніх гадох, пасьля Богазьяўленьня, айцец Александар, Настаяцель Парафіі БАПЦ ў Мэльбурне, наведаў дамы нашых суродзічаў з Йарданскаю вадою. З прыемнасьцю трэба сьцьвердзіць, што ў бальшыні нашыя суродзічы добра памятаюць нашыя багатыя традыцыі й звычаі, а таму вельмі міла віталі Настаяцеля ў часе наведваньня й выкананьня гэтага чыну.

Дня 20-га лютага ў Мэльбурне адбылася канферэнцыя — „Сэмінар Эміграната", скліканая праз „Сусьветнае аб'еднаньне Хрысьціянскіх Цэркваў". У канферэнцыі прымалі ўдзел прадстаўнікі паасобных цэркваў, ды прадстаўнікі харытатыўных арганізацыяў. Канфэрэнцыя перадусім разглядала праблемы эміграната. Парафіі БАПЦарквы ў Мэльбурне рэпрэзэнтаваў а. Александар.

Нядзеля 25-га лютага ў Аўстраліі ўважаецца „Нядзеляю Эміграната". З гэтае нагоды, пасьля Багаслужбы а. Прат. Александар, Настаяцель Парафіі БАПЦ ў Мэльбурне, прачытаў ліст, надасланы Міністрам Эміграцыі ў Аўстраліі (А. Г. Грассбы), у якім ён вітае Беларусаў Эмігрантаў і скла-

дае нам найлепшыя пажаданьні ў рэлігійным, грамадзкім і сямейным жыцьці.

Камітэт Добра-суседзкіх суадносін ў Вікторыі пад зьверхніцтвам яго эксцэленцыі Губэрнатара Вікторыі, Маёр Генэрала Сэр Роган Дэлякомбэ, склікаў Агульны Гадавы Сход у дзень 7-га сакавіка сёлета. Парафію БАПЦ рэпрэзэнтаваў а. Александар і сябра Параф. Рады.

## СЕЛІШЧА СЛУЦАК У КАНАДЗЕ

Прыдарылася мне быць гасьцём Яго Праасьвячэнства Уладыкі Мікалая. Я быў вельмі ўсьцешаны, калі Уладыка запрапанаваў мне паехаць паглядзець Слуцак, пра які пісалася ў нашай прэсе; апошнім часам сам Уладыка Мікалай апісаў свае ўражаньні ягонага там летняга адпачынку.

Пагода выдалася ў той дзень прыгожая, і я з вялікай цікавасьцю меў магчымасьць аглядаць красу канадзкае прыроды. Ад Таронта да Слуцка 150 міляў. Язда займае каля трох гадзінаў. У Слуцку прыгаство незабыўнае. Тут я ня буду высіляцца, а перадам уражаньні, апісаныя ў лісьце самым Уладыкам Мікалаем.

— „Паўколам лес акружае, а тут паляна, а за ёй сенажаць раскінулася. А вунь там рэчка паволі плыве ў возера, і мосьцік праз яе дарогу вядзе. Увечары пры цямку сьвятаянскія вагончыкі мігаюць, а ў траве чуваць гуд маленькага вясёлага тварэньня. У пагодную ясную й цёплую ноч на небе зыркія крыштальныя зоркі іскрацца, навыперадкі адна перад другой зіхацяць, як быццам кожная з іх хоча паказацца, што яна найпрыгажэйшая. Незабавам паважна высоўваецца з-за зямлі месяц, і зоркі, якбы з сораму, прыціхаюць. Лагодны, асьвяжальны ветрык твар абмывае, і, насычанае прыемным пахучым араматам сьвежых кветак, травы й дрэваў, — чыстае здаровае паветра набіраеш у грудзі, паўнюсенька, а пасьля выдыхаеш яго з усей сілай, каб часам не асталося, украдкам схаваўшыся ў лёгкіх, загрутага, бруднага гарадзкога газу. І зноў уцягваеш здаровае сьвежае паветра . . . Лягаеш у пасьцель і засыпаеш моцным, салодкім і прыемным сном.

Мэлёдыйным і сьпеўным гоманам птушкі радасьць апавяшчаюць. Сьвітае! А тут дзяцел, як той сторож, громка стукае, як быццам будзіць лянівага й кажа: — „Уставай! Божы дзень надыходзіць". Усходзячае сонца кідае свае залацістыя праменьні на вярхі дрэваў. Спачатку на найвышэйшыя дрэвы, а пасьля памаленьку да нізу і ўканцы на траву, пакрытую срэбранай расою. У празрыстых пэрлах расы адбіваюцца прыгожыя калёры сонечных праменьняў. Ужо яліна абудзілася й вяршком суседцы ківае, і сасна веткай ёй адмахвае, а тут-жа збоку бярозка, дуб і клён і вяз добры дзень кажуць. А прыгажуня, стройная асіна на дыбашках, як тая балерына, дрыжыкам сваіх лісьцікаў усіх забаўляе. І кветкі, упрыгожаныя ўсялякімі колерамі, усіх сустракаюць. Разам з прыемнай музыкай прыроднага хору, мілагучнага сьпеву птушак ды прыгожай гармоніі прыроды й мілай і цудоўнай мэлёдыі каляровых тонаў кветак хочацца ўзьнесьці хвалу й засьпяваць ад усей душы песьню вялікаму Мастаку, — Тварцу й Богу нашаму: „Хвалі, душа мая, Госпада; вялікія ўчынкі Яго, Ён так прыгожа ўсё стварыў".

Зараз пры дарозе знаходзіцца дом, у якім 8 пакояў, ужо трохі адрамантаваных, дзе затрымоўваюцца наведвальнікі, прыбываючы адпачыць на канец тыдня ў летнім часе. У доме маецца электрыка, вялікая кухня й цэнтральнае аграваньне дрэвам. Апалу хапае, навокал лес.

Уладыка паказвае месца, дзе ён хацеў-бы пабудаваць Сьв. царкву, каб у гэтай цішыні маліцца Госпаду Богу разам з прыезнымі людзьмі. Ладная частка зямлі з домам стала ўласьнасьцю Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, а па суседзтву набылі сабе дзялянкі нашы сямейныя суродічы, жыхары Канады. Мне здаецца, што Слуцак мае вялікую перспэктыву. Пабудова царквы й прызначэньне часткі зямлі на ўласны магільнік прычыніцца да засяленьня, ажыўленьня й замацаваньня гэтае так прыгожае свае Беларускае сядзібы. Добры пачатак зроблены, а іншае прыложыцца праз ахвярных дабрачынцаў і з ласкі Спаса нашага Ісуса Хрыста. **а. Васіль Кендыш**

## КАРОТКІЯ ВЕСТКІ

## ПЕРШАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА Ў ГІШПАНІІ

У гэтым годзе ў сталіцы Гішпаніі Мадрыдзе адчынена першая Праваслаўная Царква ў Гішпаніі. Настаяцелям царквы ёсьць гішпанец а. Хозэ Гэвіс, які з каталіцкае Царквы перайшоў у праваслаўную. Багаслужбы ў гэтай царкве правяцца гішпанскаю, грэцкаю й царкоўна-славянскаю мовамі. Парафія належыць да юрысдыкцыі Канстантынопальскага Патрыярха.

⁂

Як выглядае справа пастаўленьня жанчын у сьвятарства? Каталіцкая Царква супраць. Эпіскапальная Царква ў ЗША не дае жанчынам поўнага сьвятарства. Сярод лютаранаў пануе рознадумства — у ЗША ёсьць жанчыны у сьвячэніцкім сане. Сярод мэтадыстаў, пачынаючы з 1880 г. у ЗША пастаўлены ў сьвятарства 173 жанчыны. Зусім нядаўна, у 1956 г., па гэтай дарозе пайшла Прэсьвітарыянская Царква, дзе цяпер ужо пастаўлена 156 жанчын.

*"National Catholic Register"*

⁂

У пяршыню пасьля Другое Сусьветнае Вайны камуністычная краіна выдае Сьвячэнае Пісаньне: Чэхаславаччына падрыхтавала на экспарт у Заходнюю Афрыку тысячу экзэмпляраў Новага Запавету. Плянуецца далейшае друкаваньне у большых маштабах.

⁂

Жаданьне прыблізіць да Царквы моладзь выклікала ў нямецкіх эвангелістаў агульнанародны скандал: пасьля Вялікоднае службы ў памешканьні Царквы наладжана было сьвецкае сьвяткаваньне, з танцамі й выпіўкай.

⁂

У Кенінгштэйне адбыўся 22-гі кангрэс „Кірхэ ін Гот", які прысьвечаны быў у гэтым годзе пытаньню рэлігійнай свабоды ў сучаснасьці. Падчас трохдзённага абмеркаваньня выявілася, што прасьлед веры ніяк ня зьменшыўся ў Савецкіх краінах. Камунізм застаецца ў сіле й поўнай сваей шатанскай прыродзе.

⁂

***

Александрыйскі Патрыярх Нікалай выслаў ліст да папы Паўла VI-га ў якім просіць папу зьвярнуць увагу на прасьледаваньні, якія праводзяцца над праваслаўнымі ў Польшчы, а асабліва праваслаўнае Духавенства.

## „КАЖНАМУ ПАВОДЛЯ ПАТРЭБЫ"

### (Накшталт фэльетону)

Рознымі спосабамі савецкая прапаганда сіліца пашыраць свае фальшывыя цьверджаньні пра шчасьлівае падсавецкае жыцьцё, дакляруючы ў прышласьці цэлы рай на зямлі, каб толькі вось зьнішчыць рэлігію. І менская газэтка — падгалосак агітпропу — пахваляецца, што прыватная ўласнасьць ужо зьліквідаваная, і цяпер шпарка крочаць да камунізму, дзе будзе „кажнаму паводля патрэбы". Тыя гаслы, з якімі Ленін працёпам пёрся да ўлады — роўнасьць, вольнасьць, братэрства (з любоўю то й тады ня высоўваліся) адыйшлі ўжо ў няпамяць. Цяпер цешаць тым цьмяным камунізмам.

Нічога дурнейшага за тое „кажнаму паводля патрэбы" выдумаць нельга. Папершае, гэтаму запярэчвае факт, што чалавечыя патрэбы й жаданьні неабмежаныя. Другая рэч, тое „паводля патрэбы", ўжо дастаткова задэкляравалася савецкай уладай. Значыць, партыйным главаром (а й галаварэзам) — уласныя дачы й дамы з усімі выгодамі, таксама свае ізаляваныя ад працоўнага люду, магазыны з усякімі таварамі на іхнае жаданьне; працоўнаму-ж люду й старэчым — альбо цесны закутак у агульным будынку-стадоле, альбо хатка на курынай ножцы, з дзюравою страхою. А на першую патрэбу для працоўных — чэргі-радоўкі каля харчовых магазынаў, дзе прадаецца не „паводля патрэбы", а паводля прынцыпу „лопай што даюць", а з сваімі патрэбамі ня вытыкайся. І як-бы гэта надзяліліся тыя дары „паводля патрэбы"? Няйначай-жа як так, што тая-ж „кіраўнічая" каста вызначала-б, колькі чаго каму трэба, бо пры вольным набыцьці ды пры савецкім „дбаньні пра чалавека" давялося-б бальшыні насельніцтву хадзіць без сарочак і бяз портак ды цешыцца голадам. За звыш 50 год савецкага ўладараньня выразна даказана, што ў такой разьлеглай і хлебадайнай краіне, якую абляглі Саветы, ня могуць яны надбаць дастаткова выжываньня для насельніцтва. Балазе, ёсьць яшчэ выйсце: можна даставаць хлеб у „капіталістычных" краінах, якіх яшчэ ня „ўгробілі", і дзе няма ізаляваных магазынаў, дзе ня вызначаюць кажнаму „паводля патрэбы" й ня кажуць — „лопай што даюць".

Ня што іншае, як звычайная ілжа, — тое цьверджаньне, што прыватная ўласнасьць у Саветах зьліквідаваная. Хіба-ж агітпроп ня чуе справаздачаў сваіх-жа главароў ці ня чытае савецкае прэсы, дзе часам падаецца паасобку — колькасьць вытвараных харчовых прадуктаў у калгасах, а колькасьць у **„прыватным сэктары"?** І гэты прыватны сэктар дае некаторых харчоў, як яйкі, малако, мяса, блізу столькі, колькі агульны сэктар, альбо й больш. А да ўласнае маемасьці партыйнае касты не датыкайся: што тваё, тое й мае, а майго ня руш! Зьліквідаваньне прыватнае ўласнасьці азначала-б і ліквідацыю савецкае ўлады.

Але заведзеная Ленінская шэйна-катрынка бязупынна круціцца й безапеляцыйна лжэ.

**М.**

